# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 32 (545) 7 ЖНІЎНЯ 1966 г. Цана 60 гр

Мы іх прыводзіць не будзем, але скажам, што ў гэтым (1966) годзе трэба будзе 12 280 тысяч керамічных адзінак вясковаму будаўніцтву, г. зн. у тры разы больш, чым у 1965 г. А варта дадаць, што ў мінулым годзе гаспадары Бельшчыны атрымалі на 7% менш цэглы, чым у 1962 годзе. Дзіўна, але такая праўда.

**ВЫХАД**

Безумоўна гатовы рэцэпт цяжка падаць. Але на некаторыя справы хочам звярнуць увагу. Недахоп цэглы ў пэўнай меры можна было б заспакоіць, калі б сарганізаваць другую змену ў цагельні ў Орлі. Дырэктар Ярымовіч гаворыць, што для гэтага не многа трэба: 2 самазвалы і адпаведна большую колькасць цэменту. Развіваць механізацыю вясковага будаўніцтва можна рознымі спосабамі. Перад усім справай гэтай павінен шырэй заняцца ПЗГС і ГС-ы. Дагэтуль у павеце існуе толькі дзве пазычальні будаўнічага абсталявання, а трэба, каб пазычальня, і то з камплектам абсталявання, была пры кожным ГС-е. Вельмі добра было б, каб большыя сельгасгурткі таксама мелі пазычальні будаўнічага абсталявання.

А справа будаўнічых калектываў і іх распаўсюджвання, гэта перад усім, справа паясняючай і сістэматычнай паяснялыіай працы з боку адміністрацыі, архітэктуры і будаўніцтва і ўсіх зацікаўленых.

Прапаноў можна прыводзіць многа больш. Усё ж справа ў тым, каб іх перадумаць і пераўтварыць у рэчаіснасць.

**Аляксей Карпюк**

# Сялянскае будаўніцтва

Аграмадныя сумы грошай пакладае дзяржава на развіццё сельскай гаспадаркі. У сувязі з тым з года ў год павышаюцца ўраджаі, пашыраецца жывёлагадоўля. Але для развіцця жывёлагадоўлі патрэбны не толькі корм, але адпаведныя гаспадарчыя будынкі. Як гэтыя справы выглядаюць у нашых гаспадароў, разгледзім на прыкладзе Бельскага павета. Павет гэты з'яўляецца найбольш «рухлівым» у ваяводстве, калі маем на думцы будаўніцтва.

**ПРЫЧЫНЫ**

Розныя. З аднаго боку ўсё яшчэ «лечацца раны» пасляваенных знішчэнняў, а з другога боку Бельскі павет наогул недаінвеставаны. Аднак найбольшая прычына хуткага ўзросту будаўніцтва на вёсцы — гэта **павелічэнне даходаў сялян.** Толькі ў 1965 годзе **за прадавыя плады сяляне ўзялі 291 мільёнаў зл.** Мае гэта тым большае значэнне, што **падаткі ў апошніх гадах не ўзраслі і ўтрымоўваюцца ў граніцах 45—46 мільёнаў зл.** у год. І гэта хіба найважнейшая і найбольш пацяшаючая прычына развіцця вясковага будаўніцтва.

**ЯК БУДУЮЦЦА**

Не адзін гаспадар падумае: як хачу, так будую. Аказваецца, што пабудова гаспадарскага будынка — справа не простая. Будуючы яго, трэба мець на ўвазе трываласць, ці запэўняе максімум бяспекі, адпаведныя гігіенічныя ўмовы і т. п. Хіба не малую ролю адыгрывае і цана — кошт пабудовы.

А як гэта выглядае ў практыцы? Дык вось, аказваецца, што ў павеце аж 70% будынкаў, пабудаваных у мінулым годзе, мае меншыя ці большыя тэхнічныя хібы. Сцвярджаецца, што людзі, за лішне ашчаджаючы, робяць вельмі тонкія сцены. У многіх будынках (мураваныя) не даецца ізаляцыі, што прычыняецца да вільготнасці сцен і хуткага іх знішчэння. Не зварочваецца ўвагі на вентыляцыю і асвятленне інвентарскіх будынкаў.

Метады вясковага будаўніцтва як найбольш традыцыйныя. Гэта не так, як у горадзе, што і грузапад'ёмнікі і механічныя тынкаваркі і іншыя. Тут уся праца выключна ручная. А ці няма спосабаў на паляпшэнне гэтага стану?

Зразумела, што справа механізацыі вясковага будаўніцтва ў пэўнай меры звязана з яго выключна індывідуальнай формай. Абсалютна не распаўсюджана справа т. зв. «зэсполаў будаўляных», будаўнічых калектываў. Існаваў ён толькі ў адной вёсцы і пасля выканання сваёй праграмы перастаў працаваць. А карысці будаўнічы калектыў прыносіць многа. Членаў такога калектыва дзяржава забяспечвае патрэбнымі будаўнічымі матэрыяламі, дае беззваротную пазыку на пакрыўку даху і выкананне вогнетрывалага скляпення, дае бясплатны тэхнічны нагляд, а таксама прыходзіць з арганізацыйнай дапамогай.

**ХТО БУДУЕ**

У павеце, у якім у год выдаецца 1300 — 1400 дазволаў на пабудову, ёсць зарыгістраваных **толькі 65 муляроў.** Гавораць, другіх столькі ж працуе нелегальна. Дык ці ж можна здзіўляцца недамогам у пабудове будынкаў? Але вырашана, што справу хутка можна палепшыць, кіруючы паасобных людзей, займаючыхся будаўніцтвам, на адпаведныя рамесніцкія курсы. Прадбачваецца, што ў 1966—1970 гадах такія курсы кончыць 270 чаляднікаў і 40 майстраў.

**ПАТРЭБЫ**

У канферэнцыйнай зале Прэзідыум ПРН у Бельску вісяць прыгожыя дыяграмы, ілюструючыя патрэбы будаўнічых матэрыялаў.



На здымку: Гэта не так, як у горадзе, што і грузапад'ёмнік...

Фота аўтара




Экспанаты з музея БГКТ у Белавежы.

# праблема працы для жанчын

Хачу коратка ахарактарызаваць праблему працы для жанчын, аб чым зрабіў я толькі намёк у сваім артыкуле пад загалоўкам «У пошуках лепшага», які быў надрукаваны ў 29 нумары «Нівы». З'ява беспрацоўя сярод жанчын сталася нам як бы прывычнай і перастае выклікаць нават здзіўленне. Вядома, мужчыны найважнейшыя. А трэба ведаць, што беспрацоўе сярод жанчын безустанку павялічваецца, даходзіць да аграмадных размераў. Даволі сцвердзіць, што на працягу апошняга дзесяцігоддзя лік шукаючых працы жанчын павялічыўся на Беласточчыне ў чатыры разы! І з кім я толькі не гаварыў у гэтай справе, ніхто не мог мне ўказаць нейкага сэнсоўнага выйсця з гэтай напэўна цяжкай сітуацыі. Беспрацоўе сярод жанчын асабліва відавочнае ў беларускіх паветах Беласточчыны. Згодна з пагаворкаю: беднаму і пясок у вочы.

Фактычна ваяводскія ўлады не так даўно ўсур'ёз зацікавіліся гэтай праблемаю. Ёсць іх грозная пастанова. Пункт 3 § 7 гэтай пастановы № 14/96/65 беластоцкага Прэзідыума Ваяводскай Рады варта зацытаваць у цэласці: «Стварыць калектывы, якія ў тэрміне да 31. VIII. 1965 г. правядуць камісійны перагляд месц працы, займаемых мужчынамі, з мэтай павелічэння праз замену колькасці працуючых жанчын на месцах даступных ім».

У ваяводскай метраполіі — горадзе Беластоку дашукаліся (камісійна!) такіх «даступных ім» месц штосьці каля.... дваццаці. І то палову з іх адразу апратэставалі дырэктары. У такой сітуацыі няма чаго сягаць углыб, да паветаў і павятовых фабрык, фірмаў, установаў. Паводле найбольш свежых статыстычных дадзеных вынікае, што ў Гайнаўскім павеце зарэгістравана 175 жанчын, шукаючых працы, для якіх няма ніводнага вольнага месца працы. Падобная сітуацыя і ў Сакольскім павеце, дзе зарэгістравана такіх жанчын 45. А ў Бельскім павеце на 102 жанчыны, шукаючыя працы, было толькі адно вольнае месца, у Сямяціцкім павеце — два вольныя месцы. Праўда, адчуваецца таксама недахоп працы і для мужчын, але ў цэлым ваяводстве на аднаго шукаючага працы мужчыну выпадае каля дваццаці вольных месц працы.

Спецыфічнай рысай з'явы беспрацоўя сярод жанчын у беларускіх паветах з'яўляецца тое, што ёсць шмат **вясковых** жанчын, шукаючых працы.

Прафесіянальныя школы і тэхнікумы надта неахвотна прымаюць дзяўчат. Усё папіхаюць іх у школы медыцынскіх сясцёр або ў агульнаадукацыйныя ліцэі. Здальнейшыя з іх могуць пасля ліцэя закончыць універсітэт і гэта ўжо вельмі многа. Таму ў ліцэях вучацца амаль выключна дзяўчаты — у беларускіх ліцэях сітуацыя падобная, хаця створаны яны для патрэб цэлай нацыянальнай беларускай меншасці, а не толькі для яе «прыгожай палавіны». У сувязі з тым варта заўважыць, што іншых школ з беларускай мовай няма, хаця чыніліся свайго часу нават сур'ёзныя спробы арганізацыі гаспадарчых і сельскагаспадарчых школ з беларускай мовай. Такія школы моцна патрэбны нашым бязмерна адсталым аколіцам, вёскам.

Некалькі сот ліцэістак не можа знайсці сабе працы. «Хлопцы выязджаюць у «Польшчу», а дзяўчаты сядзяць, — кажуць людзі. Сапраўды, іншыя ваяводствы вельмі ахвотна прымаюць выпускнікоў нашых прафесіянальных школ.

Але вернемся да беларускіх паветаў Беласточчыны. Тут цяжка знайсці годны заробак нават для галавы сям'і, для бацькі. Тут нярэдка цяжка ўтрымацца на мізэрных загонах паласатай гаспадаркі. Жыццёвыя цяжкасці, якія з асаблівай сілаю відавочны ў беларускіх вёсках, прымушаюць жанчыну, матку сям'і, шукаць працы, шукаць дадатковага заробку. Такіх ахвотных да працы жанчын надта ж многа. Разам з тым ёсць і вялікія магчымасці для стварэння ім працы, магчымасці зарабіць. На Беласточчыну прывозілася цэгла

(Працяг на стар. 4)

Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментары • Вёсткі

СВЕТ | БССР | ПОЛЬШЧА | ВАЯВОДСТВА

### В'ЕТНАМ

Прэзідэнт ДРВ Хо Шы Мін, выступаючы на прэс-канферэнцыі і адказваючы на пытанні журналістаў аб тым, ці звернецца з просьбай да сацыялістычных краін аб прызыве добраахвотнікаў, заявіў: пакуль што няма патрэбы, каб урад ДРВ зварочваўся да якой-небудзь з дзяржаў аб прызыве добраахвотнікаў да барацьбы з амерыканскімі захопнікамі ў В'етнаме. Адначасова заявіў ён, што амерыканскім палонным за іх злачынствы над в'етнамскім народам не пагражаюць ніякія здзекі ані суды. Улады ДРВ будуць з імі абыходзіцца паводле міжнародных праваў аб ваеннапалонных. Хо Шы Мін дадаў, што вінаватымі ў злачынствах лічыць перад усім некаторыя колы ў ЗША, якія пасылаюць гэтых салдат. Гэта велізарная гуманнасць з боку кіраўніка ДРВ яшчэ раз паказвае на добрую волю і на дарогу мірнай развязкі спраў В'етнама.

### СССР

Прынцып пяцідзённага тыдня працы ў СССР уведзены ўжо ў 500 тысячах фабрык і прадпрыемстваў. Устанаўленне двух выхадных дзён у тыдні прадказаў XXIII З'езд КПСС на працягу гэтай пяцігодкі. Усесаюзны Савет прафсаюзаў заявіў, што на 50-ую гадавіну Кастрычніцкай рэвалюцыі, у канцы 1967 года скарочаны тыдзень працы будзе ўведзены ў большасці савецкіх прамысловых прадпрыемстваў і ўстаноў.

### ПАЎДНЁВА-АФРЫКАНСКАЯ РЭСПУБЛІКА

Больш чым 90% хворых туберкулёзам у рэспубліцы — афрыканцы. Тлумачыцца гэта тым, што не існуе для іх медыцынскае абслугоўванне, вельмі дарагія медыкаменты, а таксама вельмі нізкі ўзровень жыцця большасці афрыканцаў у гэтай краіне. У той жа час сярод белых жыхараў ПАР у мінулым годзе было зарэгістраваных усяго 1 260 новых хворых туберкулёзам.

### ВЕНЕСУЭЛА

Каля мільёна венесуэльскіх дзяцей ва ўзросце ад 7—14 год не атрымоўвае нават пачатковай адукацыі. Прычына: недахоп у краіне школьных памяшканняў. Некаторыя члены камісіі палаты дэпутатаў да справ культуры падкрэсліваюць, што такая сітуацыя ў галіне асветы з'яўляецца вынікам эканамічнай залежнасці краіны ад амерыканскіх манаполій.

### ВІЗІТЫ

Мінулы тыдзень (24 па 31 ліпеня) быў вельмі багаты візітамі. І так: міністр замежных спраў СССР **А. Грамыка наведаў Японію, прэм'ер Ірака прабываў у Маскве, Вільсан адбыў паездку у Вашынгтон і Канаду, Куў дэ Мюрвіль вёў перагаворы ў Празе і Будапешце. У Польшчы прабываў міністр замежных спраў Італіі.**

### СПОРТ

Сусветны чэмпіянат па футболу. «Залатую Багіню» заваявала каманда Англіі. Другое месца — ФРГ, трэцяе — Партугалія, чацвертае — каманда СССР. Наступны чэмпіянат міру па футболу — ў 1970 годзе. (ак)

### МАЛАДЗЁЖНЫЯ ВЫСТАЎКІ

У пачатку гэтага года Міністэрства культуры СССР, праўленне Саюза Мастакоў СССР і ЦК ВЛКСМ прынялі пастанову аб арганізацыі ўсесаюзнай і рэспубліканскіх выставак твораў маладых мастакоў. Увосень гэтага года ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адкрыецца другая рэспубліканская маладзёжная выстаўка, якая будзе папярэднічаць усесаюзнай выстаўцы ў Маскве.

### ПЯЦІГОДКА

Прырост вытворчасці прамысловай прадукцыі ў першым паўгоддзі ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года склаў 14 працэнтаў. Паўгадовы план па агульнаму аб'ёму вытворчасці выкананы на 105 працэнтаў. Узрасла вытворчасць прадуктаў жывёлагадоўлі ў параўнанні з першым паўгоддзем мінулага года: мяса — на 33, малака — на 19 і яек — на 34 працэнты. Сярэдняя заработная плата ўсіх рабочых і служачых была вышэй, чым за адпаведны перыяд мінулага года, прыкладна на пяць, а аплаты працы калгаснікаў на 39 працэнтаў.

### ЧВЭРЦЬ СТАГОДДЗЯ НА АМАТАРСКАЙ СЦЭНЕ

У 1942 годзе сяржант — тэлефаністка Г. Макеечава стварыла калектыў мастацкай самадзейнасці. У перапынку паміж баямі стомленыя байцы слухалі родныя песні Беларусі, Украіны і Літвы. Цяпер Г. Макеечава працуе дыктарам Гродзенскай абласной радакцыі радыёвяшчання. Па-ранейшаму любіць яна мастацтва. У драматычным калектыве Палаца культуры тэкстыльшчыкаў стварыла шмат вобразаў — герояў грамадзянскай, Айчыннай войнаў, сучаснікаў. За актыўны ўдзел у мастацкай самадзейнасці яна ўзнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР.

### ТЫДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАЙ ССР У МАЛДАВІІ

Нядаўна закончыўся ў Малдавіі тыдзень БССР. Саюз пісьменнікаў Малдавіі стварыў пяць брыгад, якія раз'ехаліся па рэспубліцы і праводзілі вечары беларускай і малдаўскай літаратуры. Вялікая выстаўка — продаж кніг беларускіх выдавецтваў была наладжана ў цэнтральнай кнігарні Кішынёва. Ва ўсіх трох залах кінатэатра «Віруінта» ішлі беларускія фільмы. Усе газеты друкавалі старонкі перакладаў твораў беларускіх пісьменнікаў. Малдаўскае радыё правяло спецыяльны фестываль, прысвечаны БССР.

### УМЕЛЬЦЫ БРЭСТЧЫНЫ

Брэстчына здаўна славіцца народнымі ўмельцамі, якія займаюцца разьбой па дрэву, вышыўкай, ткацтвам. Нядаўна Мастацкім фондам БССР і Брэсцкім абласным Домам народнай творчасці, праведзены семінар народных умельцаў вобласці. На семінары чыталіся лекцыі па пытаннях выяўленчага мастацтва, праводзіліся экскурсіі ў мастацкія музеі і на прадпрыемствы, якія выпускаюць мастацкую прадукцыю, наладжваліся сустрэчы з мастакамі — прафесіяналамі, кансультацыі, абмен вопытам, абмеркаванне твораў народнага мастацтва. Лепшыя творы ўдзельнікаў семінара рэкамендаваны на мастацкія выстаўкі і для масавай вытворчасці.

### ПРЫБАЎКА ДА ЗАРПЛАТЫ І ЗМЕНА ЦЭН НА НЕКАТОРЫЯ ПРАДУКТЫ

Савет Міністраў па прапанове Цэнтральнага Савета Прафсаюзаў рашыў павысіць зарплату некаторым групам працаўнікоў і пенсіянерам. Прыбаўку да зарплаты атрымоўваюць: працаўнікі агульнага будаўніцтва, керамічнай і вапна-гіпсавай прамысловасці, мінеральнай і гравійнай сыравіны, вытворчасці бетонаў і будаўнічай ізаляцыі, газавай і пякарскай прамысловасці, шахт бурага вугалю і серы, рабочыя, якія працуюць на паверхнасных шахтах каменнага вугалю і руды. Прыбаўку атрымалі некаторыя працаўнікі заводаў, падпарадкаваных міністэрству цяжкай прамысловасці, рабочыя млыноў і малочнай прамысловасці, друкары і работнікі, якія вядуць пошукі новых мінералаў.

Прыбаўка да зарплаты адносіцца таксама да рабочых гандлю і рабочых, якія праводзяць рамонты жыллёвых будынкаў; працаўнікоў водаправодаў і каналізацыі ды ачысткі горада і некаторых працаўнікоў рачнога суднаплавання.

Прыбаўку атрымалі працаўнікі грамадскіх, гарадскіх і павятовых радаў нарадовых, а таксама працаўнікі іншых устаноў дзяржаўнай адміністрацыі, банкаў, ПЗУ, судоў, пракуратуры, бібліятэк, музеяў і некаторых другіх груп працаўнікоў устаноў мастацкага і культурнага характару.

Прыбаўка да зарплаты сталася магчымай дзякуючы добраму выкананню мінулагодніх і сёлеташніх гаспадарчых заданняў. Ахоплівае яна 3 мільёны 100 тысяч чалавек і складае ў год суму амаль у 3 мільярды 800 мільёнаў злотых. Павышаная зарплата абавязвае ўжо ад 1 жніўня або ад 1 верасня. Адначасова ўстаноўлена самая ніжэйшая зарплата — 850 злотых.

Змена цэн датычыць папярос і тытунёвых вырабаў. І так: пачка «Спортаў» каштуе цяпер 3,50 зл., а «Гевонтаў» — 6 зл. Падаражэла рыба. Траска (дорш) каштуе зараз 14 зл., а філеты з яго — 25 зл., жывы карп 1-га гатунку каштуе ад 36 да 42 зл.

На 5 злотых знізана цана шмальцу, які цяпер каштуе 33 зл. Менш каштуюць малыя 17-цалёвыя тэлефізары і хатнія халадзільнікі (лядоўкі). Тэлевізар «Тоска», «Агат», «Зэфір» і «Лязурт» можна цяпер купіць за 8 000 зл., а тэлевізар «Алядын», «Нептун» і «Шафір» за 7 000 зл.

Павышэнне цаны на папяросы мае абмежаваць надта ж вялікі і шкодны для здароўя рост запатрабавання на іх, а павышэнне цаны траскі (дорша), карпа і ліна неабходна з увагі на тое, што папярэдняя цана не пакрывала коштаў іх лоўлі. Прыходзілася да кожнага кілаграма гэтых рыб даплачваць звыш палавіны іх цаны.

### СУКНО «СЯРЖАНА»

Сукно, якое прадукуе Беластоцкае прадпрыемства ваўнянай прамысловасці імя дырэктара Сяржана, даўно ўжо высока цэніцца ў нашай краіне, а таксама за мяжой.

На таварнай біржы, якія штоквартал наладжваюцца ў Лодзі, ужо ў першы дзень прадстаўнікі гандлю склалі столькі заказаў на сяржанаўскае сукно, што хопіць іх да канца гэтага года. Рабочыя прадпрыемства і яго дырэкцыя не патрабуюць турбавацца, дзе збываць свае вырабы.

### ТЫСЯЧНЫ ВЫПУСКНІК

Завочная настаўніцкая студыя ў Беластоку адзначае сёлета своеасаблівы юбілей. Тут атрымала дыпломы тысяча настаўнікаў. Тысячны дыплом урачыста быў уручаны Чаславе Якубаніс. Вывучала яна матэматыку і фізіку. Усе экзамены вытрымала на выдатна. Дыплом нумар 999 атрымала Рамуальда Пракоп, якая вывучала польскую філалогію, а дыплом нумар 1001 — настаўніца Г. Тамашэўская, спецыялістка па фізіцы і хіміі. Завочная настаўніцкая студыя існуе ўжо 11 год.

### ЭКСПАРТ ЯГАД І ГРЫБОЎ

Беласток з'яўляецца важным цэнтрам экспарту ягад, гародніны і грыбоў. У Беластоку дзейнічае прадпрыемства, якое спецыяльна займаецца падрыхтоўкай гэтых прадуктаў на ўнутраны і замежны рынкі. У мінулым годзе гэтае прадпрыемства выслала ў другія краіны столькі ягад, грыбоў, агуркоў і другіх спажывецкіх прадуктаў, што вартасць іх склала каля 4,5 мільёнаў злотых — амаль два разы больш, чымсці прадбачваў план.

Сёлета за мяжу паедуць прадукты вартасцю ў 3 мільёны 400 тысяч злотых. Такі ёсць план. Можна будзе яго шмат перавыканаць, калі сяляне даставяць адпаведна больш ягад, гародніны і грыбоў. Гэта ж для іх дадатковая крыніца даходу. Нават дзеці (школьнікі) могуць зарабіць сабе на кніжкі і сшыткі.

### ТЫТУНЬ ДАЕ ДАХОД

Ад 1951 года існуе ў Аўгустове тытунёвая фабрыка, дзякуючы якой у тры разы павялічылася плошча вырошчвання тытуню ў павеце. На працягу пяці апошніх гадоў плантатары тытуню атрымалі ад аўгустоўскай фабрыкі каля 1 мільярда злотых. Папяросы з Аўгустова вандруюць да многіх замежных краін.

**Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства і рэдакцыя «Нівы» выказваюць глыбокае спачуванне сакратару ГП БГКТ Уладзіміру Юзвюку з прычыны смерці яго бацькі.**

## Тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія • тэлевізія

**NIEDZIELA 7. VIII.**

8.55 Program dnia; 9.00 „Moskiewski Kreml wczoraj i dziś" — „Arsenał na Kremlu" (Moskwa); 9.40 „W świecie sztuki" — „Muzeum Archangielskie" (Moskwa); 10.10 Przerwa; 14.00 Program dnia; 14.05 „Jedziemy na łów" 14.20 PKF; 14.30 „W zielonym obiektywie"; 14.55 „Piórkiem i węglem"; 15.20 Teatrzyk dla Przedszkolaków: Anna Chodorowska — „Jedziemy z piosenką"; 15.50 „Świat, obyczaje, polityka" 16.10 „Chopin 1965"; 17.10 „Ucieczka" — reportarz filmowy („Ludzie i zdarzenia"); 17.25 „Ostatni lot" — film fab. radz.; 19.00 „Chciałbym się ogolić" — tv nowela kryminalna pol.; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Słownik wyrazów obcych"; 20.15 „Klub kawalerów" — film fab. pol.; 21.40 „Śpiewa Jan Lewandowski"; 22.00 Niedziela Sportowa.

**PONIEDZIAŁEK 8. VIII.**

17.40 Program dnia; 17.45 „Na półkach księgarskich"; 17.55 Wiadomości dziennika tv; 18.00 Dla dzieci: „Potwór" cz. II — film („Opowieści znad rzeki"); 18.15 „Żeńcy" („7 milionów młodych"); 18.30 „Kino Krótkich Filmów"; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.05 III TELEWIZYJNY FESTIWAL TEATRÓW DRAMATYCZNYCH: „Fizycy" Friedricha Dürrenmatta. Wykonawcy: K. Borchardt, H. Bystrzanowska, R. Hanin, B. Klimkiewicz, E. Fetting, J. Gałecki, S. Gawlik, S. Jaworski, G. Koliński, B. Płotnicki, W. Pokora, Z. Skowroński, J. Skulski, J. Świderski, M. Trojan, S. Wyszyński. (Transmisja z Teatru Dramatycznego w Warszawie); ok. 22.05 „Eureka"; 22.35 Dziennik TV.

**WTOREK 9. VIII.**

10.00 „Człowiek, który wątpi" — film fab. radz.; 11.20 Przerwa; 17.50 Program dnia; 17.55 Wiadomości dziennika tv; 18.00 Dla młodych widzów: „Wakacje i sport" — zgadywanka terenowa; 18.20 „Ocean wielkich nadziei"; 18.45 Informator handlowy; 18.55 „Gawędy wilków morskich"; 19.10 „Sarajewo" — rep. filmowy; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Kijowskie portrety" — film; 20.15 „Człowiek, który wątpi" — film fab. radz. od lat 16; 21.45 „Bez apelacji" cz. II; 22.15 Dziennik TV.

**SRODA 10. VIII.**

10.00 „Krok w krok za tobą" — film („Baron"); 10.50 Przerwa; 17.40 Program dnia, 17.45 PKF; 17.55 Wiadomości dziennika tv; 18.00 — film („Kpt. Tenkesz"); 18.25 Wszechnica TV: „Panorama z mostu" („Spacerkiem po Warszawie"); 19.00 „Kierunek Morze Północne" — rep. filmowy; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „TV Kurier Warszawski; 20.15 „Krok w krok za tobą" — film („Baron"); 21.05 „Światowid" — magazyn spraw międzynarodowych; 21.30 „Modest Mussorgski" — program muzyczny; 22.00 Dziennik TV.

**CZWARTEK 11. VIII.**

17.35 Program dnia; 17.40 Wiadomości dziennika tv; 17.45 „Nie tylko dla pań"; 18.05 „Życie w starożytnym Rzymie" cz. III. — film; 18.35 „Kwadrans zagadek"; 18.50 Wszechnica TV: „Dla każdego coś nowego" — program dla działkowiczów; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 „Wydanie specjalne" — paryski program baletowy — film; 20.15 Teatr Sensacji: „Stawka większa niż życie" — „Kryptonim Edyta" — Andrzeja Zbycha. Wykonawcy: S. Mikulski, A. Zawieruszanka, Z. Karewicz. H. Gruszecka, H. Norowicz, M. Dmochowski, J. Kaczmarek, J. Kostecki, W. Kowalski, A. Mirocki, N. Stoor; 21.30 „Naprawmy te naprawy"; 21.45 „Polacy nad Adriatykiem" — reportaż filmowy z Jugosławii; 22.05 Dziennik TV.

**PIĄTEK 12. VIII.**

17.40 Program dnia; 17.45 Wiadomości dziennika tv; 17.50 Wszechnica TV: „Syntetyczny obiad"; 18.20 „Sylwetki X Muzy"; 18.50 „Poligon" — Wojskowy Przegląd Wydarzeń; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik TV; 20.00 — film; 20.15 --film. fab.; ok. 22.40 Dziennik TV.

**SOBOTA 13. VIII.**

11.30 „Viva Villa" — film fab. USA; 13.15 Przerwa; 16.05 Program dnia; 16.10 Program tygodnia; 16.30 Sprawozdanie sportowe; 13.30 „Po szóstej" — Młodzieżowy Klub TV; 19.20 „Dobranoc"; 19.30 „Monitor"; 20.00 „Auto-stop" — IV program z cyklu „Tele—Variete. Wykonawcy: E. Bojanowicz A. Goslewska, W. Kotowska, I. Santor, Z. Nędajewski, S. Gruszczyński, R. Lisiecki, J. Malota, A. Mirecki, C. Niemczuk, Z. Szymborski, J. Tkaczyk oraz Zespół Baletowy i Zespół Muzyczny „Tajfuny" (Katowice); 21.15 „Wiadomości sportowe"; 21.25 „Viva Villa" — film fab. USA; 23.10 Gruziński Zespół Baletowy „Dieło".

 

# НОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД НЕДАЛЁКА

Працы над школьнай сеткаю і ўвядзенне васьмігадовай праграмы навучання ў Гайнаўскім павеце пачаліся яшчэ ў 1962 годзе. Устаноўлена і зацверджана сетка 8-класных школ прадугледжвала агулам 82 падставовыя школы, у тым 56 з найвышэйшым восьмым класам. У перыяд ад 1962 г. да сучаснага моманту школьная сетка падлягала пастаянным зменам, якую праводзілі з пункту гледжання арганізавання васьмікласных школ з магчыма найбольшым арганізацыйным узраўнем. З апошняга зацверджання школьнай сеткі вынікае, што ў 1966/67 навучальным годзе будуць дзейнічаць 2 арганізацыйныя ўзроўні школ з класамі I—VIII і класамі I—IV. На агульную колькасць 77 падставовых школ у 46 школах будзе сарганізаваны VIII клас. Толькі 3 школы, у якіх прадугледжана арганізацыя восьмага класа, пакуль што яго не будуць мець, таму што малая колькасць вучняў да VIII-га кл. не дазваляе адкрыць яго ў гэтым годзе. Гэта школы ў Чэхах Арлянскіх, Цераміcках і Альхоўцы. На падставе ўступнага распазнання праз Аддзел асветы і культуры ППРН у Гайнаўцы сёмы клас у павеце скончыць 1 115 вучняў, з якіх адыдзе 391 вучань, з таго ў восьмы клас будзе хадзіць каля 724 вучні.

На тэрыторыі павета ёсць некалькі школ, а між іншым, Тапіла і Рыбакі, у якіх колькасць дзяцей не дазваляе паднесці арганізацыйнай ступенькі. У сувязі з гэтым каля 145 дзяцей у павеце будзе хадзіць у V—VIII класы ў зборчыя школы ў адлегласці звыш 3 і 4 кіламетраў. Аднак Аддзел асветы і культуры ёсць забавязаны і аказвае гэтым дзецям адпаведную дапамогу ў выглядзе ўспамогі і стыпендыі.

Разам з арганізацыяй школ паўстае праблема даць адпаведныя памяшканні на школьныя залы. У мінулым навучальным годзе дзенных было 296 класаў, з якіх было 236 уласных, 55 нанятых і 5 часовых. Акрамя таго было 23 спецыяльныя залы з прызначэннем на тэхнічныя і фізіка-хімічныя майстэрні. На падставе апрацаваных кіраўнікамі арганізацыйных праектаў школ на 1966/67 нав. год падставовае школьніцтва патрабаваць будзе агулам 340 класаў і 40 памяшканняў на тэхнічныя і фізічна-хімічныя майстэрні. Памяшканні, якіх не хапае, атрымаем:

— у рамах інвестыцыі пабудавана будзе школа Тысячагоддзя ў Гайнаўцы з 15 класамі і 4-ма майстэрнямі;

— у рамах разбудовы школ грамадскім чынам жыхарамі вёсак: — Сакі — 3 класы — Дашы — 3 класы — Дабрывада — 2 класы — Кляшчэлі — 4 класы і гімнастычная зала.

Гэтыя аб'екты будуць адданы ў карыстанне ў IV-тым квартале гэтага года. Вартасць інвестыцыі рэалізаваных чынам аблічваецца на суму каля 1 мільёна злотых. І так, трэба будзе знайсці яшчэ 35 памяшканняў. Большасць ГРН ужо аформіла гэту справу, такія памяшканні ўжо абяспечаны паасобным школам паводле акрэсленых патрэб. Але найбольшыя цяжкасці з атрыманнем памяшканняў выступілі ў Чыжах, Курашаве, Тыневічах Вялікіх і Вітаве. План інвестыцыі чынам у разбудове школ да 1968 года прадугледжвае ў наступных мясцовасцях: 1. Чэхі Арлянскія — 3 класы, 2. Курашава — 3 класы, 3. Альхоўка — 2 класы, 4. Крывец — 2 класы, 5. Грузка — 2 класы, 6. Мора — 3 класы.

Праўна-тэхнічная дакументацыя на аб'екты ў Чэхах Арлянскіх, Курашаве і Моры знаходзіцца ў Прэзідыуме ГРН. На астатнія школы тыповая дакументацыя ёсць у Аддзеле асветы і культуры ППРН.

Найбольш трывожным з'яўляецца рэалізацыя планаў капітальных рамонтаў у школах. На планаваныя на рамонт школы ў Чаромусе — пасёлку, Курашаве, Кляшчэлях, Нараўцы і Чэхах Арлянскіх на агульную суму 712 тыс. зл. да гэтага часу праца пачата толькі ў Нараўцы. На іншыя аб'екты няма рабочых. Аддзел асветы і культуры выкарыстаў усе існуючыя магчымасці знайсці выканаўцаў. Усе дзяржаўныя рамонтна-будаўнічыя прадпрыемствы на тэрыторыі Гайнаўскага павета і суседніх паветаў не прымаюць працы.

У сувязі з гэтым няма ўпэўненасці, ці прызначаныя грошы на рамонт будуць выкарыстаны згодна з планам. Можа гэта мець адмоўны ўплыў на ўстанаўленне ліміту на наступны год. А яшчэ горш, бо планаваныя рамонты ў некаторых школах трэба правесці абавязкова з увагі на знішчаныя памяшканні. Зараз канікулы, і якраз найбольш адпаведны час на правядзенне рамонту. Практыка паказвае, што рамонты праводзяцца позняй восенню, што з'яўляецца прычынаю дэзарганізацыі навучання, а ў выніку — нізкі ўзровень навучання, за які нельга абвінавачваць настаўнікаў. Мне здаецца, што прадпрыемствы павінны зразумець важнасць гэтай праблемы, і іншыя працы можна пакінуць на пазнейшы перыяд. Гэта хіба з'яўляецца вельмі сур'ёзнай праблемай. У якіх умовах возьмем старт да рэалізацыі школьнай рэформы — залежыць будзе далейшае яе развіццё.

**Аляксандр Ражкевіч**
Гайнаўка

КАМУ РАТУНАК?

## А ў нас...

**Чытаючы адзін з апошніх, дваццаць пяты нумар варшаўскага часопіса «Палітыка», напаткаў артыкул Станіслава Бялецкага пад загалоўкам «Мора без ветру». Гэты артыкул чытаецца з вялікай цікавасцю, бо насоўвае ён шмат параўнанняў да нашай сітуацыі.**

**Станіслаў Бялецкі піша аб Кашалінскім ваяводстве. Піша так, што маецца ўражанне, быццам Кашаліншчыне належыцца хуткі ратунак. Не без рацыі ломіць ён рукі над тым, што на Кашаліншчыне надта нізкія ўраджаі чатырох асноўных збожжавых культур. Гэтыя ўраджаі не перавышаюць 16,8 цэнтнера з аднаго гектара і з'яўляюцца намнога меншымі ад сярэдняй ураджайнасці ў Польшчы. С. Бялецкі не бачыць лепшых перспектыў для Кашалінскага ваяводства, цвердзячы: «Няма тут земляў прыдатных для стварэння вялікай сельскай гаспадаркі». Гэту апінію Бялецкага з чыстым сумленнем аднoшу да большасці земляў у нашых беларускіх аколіцах.**

**Найноўшы «Статыстычны Гадавік», які давялося мне чытаць, паведамляе, што сярэдні ўраджай чатырох збожжавых культур на Беласточчыне не перавышае 10,2 цэнтнераў з аднаго гектара. А ў нашых беларускіх паветах гэта ўраджайнасць выглядае так: у Бельскім павеце — 9,6 ц/га, у Гайнаўскім павеце — 9,1 ц/га, у Сямяціцкім павеце — 9,2 ц/га. Характэрнае тое, што ўраджаі жыта яшчэ меншыя. У гэтых трох паветах ураджаі жыта не перавышаюць сямі з паловай цэнтнера з аднаго гектара.**

**Аднак найгоршае тое, што беларуская гаспадарка на Беласточчыне не мае сур'ёзных перспектыў механізацыі з увагі на існаванне тут проста фантастычнай цераспалосіцы палёў. На вузенькіх загонах не месцяцца сельскагаспадарчыя машыны, можна сказаць, пераважна не месцяцца. Цераспалосіца фактычна існуе толькі ў беларускіх паветах, у іншых паветах яе няма зусім або выступае толькі ў некаторых найбольш занядбаных аколіцах.**

**Велізарную адсталасць беларускіх вёсак**

## ГАРЦЭРСКА-ТЭПЭДОЎСКІ ДЗЕТСАД

Нельга поўнасцю назваць дзетсадам таго, што мы засталі ў Спічках Бельскага павета. Проста ёсць тут 32 дзяцей, якія кожны дзень збіраюцца ў будынку мясцовай «рэмізы». Узрост іх таксама розны. Калі мы вайшлі да будынку, аказалася, што ёсць тут нават дзіця яшчэ ў возіку. Дзецям есці тут не даюць прыносяць яны з сабою.

А хто Вы па прафесіі — зварочваемся мы да Яніны Дэмборуг кіраўнічкі дзетсада? — Я вучаніца IV класа Эканамічнага тэхнікума. А дасталася да працы праз гарцэрства. Проста наша дружына супрацоўнічае з аддзелам ТПД, які кожны год бярэ нас як выхавальніц сваіх дзетсадаў. Я тут вяду дзетсад са сваёю сястрой таксама вучаніцай. А гуляць з дзецьмі па-рознаму трэба. Перад усім мы прымяняем гарцэрскую методыку гульняў, таму, што яны найцікавейшыя. Але здараецца часта, што «мама» астаўляе маленькае дзіця ў возіку і мы тут са старэйшымі дзяцьмі апякуемся ім.

Праз два месяцы дзеці могуць цікава праводзіць час, а х бацькі спакойна працаваць у полі.

Трэба дадаць, што ініцыятыва гарцэрства і ТПД вельмі арыгінальная.



**На здымку: Групка дзяцей з выхавацельніцай Я. Дэмборуг на лузе.**

Тэкст і фота: (ак)

## ГАЦЬКІ

**Тут пачалася будавацца святліца-клуб. Штопраўда, фармальна справа яшчэ не ўладжана і банк не аплочвае рахункаў, але жыхары вёскі звезлі ўжо гравію, каменне і пясок. Перад жнівамі зрабілі б і фундамент, але «начальнікам» у горадзе не вельмі спешна. Ад студзеня справа цягнецца. Як нас паведаміла намеснік інспектара да спраў культуры Антаніна Куна, дакументацыя ўжо ў руках апошняй камісіі і ў хуткім часе будзе яна здана ў банк, які і пачне фінансаваць інвестыцыю.**

# праблема працы для жанчын

**(Працяг са стар. 1)**

недзе з Зялёнагурскага ваяводства, тым часам у беларускай Лясанцы пад Міхаловам амаль не ліквідавалі цагельні. Гэта ўжо мінулы парадокс, але не даў бы я адцяць сабе рукі за тое, што ўжо няма падобных парадоксаў у нашай згараванай гаспадарцы.

Нашы Беластоцкія пушчы належаць да найвялікшых у Польшчы. Аднак чамусьці не даходзіць да стварэння тут мэблевай прамысловасці. Белавежскія элеганты купляюць мэблю, якую прывозяць да нас з цэнтральнай Польшчы. Што гэта такое? — пытаю я і пыталі мяне мае шаноўныя размоўцы па вёсках і мястэчках. А трэба ведаць, што мэблевая прамысловасць надта даходная і, што найважнейшае нам, дае магчымасць працы менавіта жанчынам у першую чаргу. Не так даўно беларускі дзеяч з Гайнаўкі пісаў у «Ніве», між іншым, так: «Пад канец 1965 года зарэгістравана 360 жанчын, шукаючых працы. І таму праблема працы для жанчын патрабуе хуткага вырашэння. Каб паправіць гэту сітуацыю ў пасляспулдзельчай аборы ў Дубінах плануецца наладзіць прадукцыю вырабаў з саломы і ракіты. Месца для пасадкі ракіты хопіць. Патрэбна толькі разумная дапамога адпаведных улад... Знайшло б тут працу каля 100 жанчын і 20 мужчын. На падставе аналізу стану працуючых на гады 1966—1970 вынікае, што лішкі рабочай сілы будуць складаць каля... 2 200 асоб. Рэалізацыя інвестыцый у дзяржаўнай прамысловасці дазволіць стварыць 1 200 месц працы. Залежыць гэта ад пабудовы ў Гайнаўцы мэблевай фабрыкі, вырабу пліт са стружак... пабудовы керамічнай фабрыкі ў Ляўкове».

Загаловак гэтага артыкула надта знамянальны: «Ці пагражае нам беспрацоўе». Загаловак гаворыць сам за сябе. Так маюцца справы ў беларускай Гайнаўцы, якая побач Беластока, з'яўляецца найбольшым прамысловым цэнтрам на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Рэшта паветаў з беларускім насельніцтвам у параўнанні да Гайнаўскага, падобная да бедных сваякоў, не маючых нічога або амаль нічога. Беларус са здзіўленнем чытае артыкул Анджэя Кжыштофа Врублеўскага пад загалоўкам «200 злотых за аднаго чалавека», надрукаваны ў перадапошнім чэрвеньскім нумары часопіса «Палітыка». У гэтым артыкуле аўтар піша: «За кожнага завербаванага рабочага 200 зл. прэміі». Аўтар піша аб Варшаве, аб вялізным недахопе рабочай сілы ў Варшаве. Таму цяжка паўстрымацца ад уражання, што толькі хуткі выезд «у Польшчу» з'яўляецца адзіна разумным крокам маладога хлопца ці дзяўчыны, — калі гэта дзяўчына ўмее што-небудзь рабіць, мае нейкую прафесію. Вядома, хлопцу ці мужчыне шмат лягчэй здабыцца на такую жыццёвую пастанову. Тут дзейнічае ўжо традыцыя... Хаця рацыя традыцыі малая і штораз меншая.

На падставе шматгадовых уласных назіранняў ведаю, што беспрацоўе сярод жанчын мае характар затоены, бо толькі выразная патрэба прымушае жанчыну шукаць працы, ісці да пасрэдніцтва працы. Наша жанчына ведае, што не мае яна ніякіх перспектыў на працу. Таму існуе істотная розніца паміж лікамі мужчын і жанчын шукаючых працы. Трэба зусім іначай глядзець на гэтыя лікі. Зрэшты, тут жа, у маім артыкуле маем прыклад гэтай супярэчнасці. Мне гайнаўскае пасрэдніцтва працы паведаміла, што на канец 1965 года шукала працы каля 175 жанчын, тым часам у цытаванай мною карэспандэнцыі дзеяча з Гайнаўкі гаворыцца аб ліку 360 жанчын, шукаючых працы. Дзе праўда, дзе праўдзівыя лікі?

Даволі пагаварыць з дзеячамі ЦПЛіАаўскіх спулдзельняў артыстычных вырабаў, от, хаця бы з небагатых Кошак, каб даведацца, колькі жанчын імкнецца па гэты па-праўдзе вельмі цяжкі заробак з марудных вырабаў саламяных, шмацяных ці якіх там яшчэ іншых.

Скарачаючыся, хачу сцвердзіць, што ў адносінах працы для жанчын беларускі рэгіён у Польшчы патрабуе хуткай інтэрвенцыі, дапамогі. Так цяжка няма ўжо нідзе ў Польшчы! І нідзе няма такой масы «непатрэбных» жанчын, працавітых жанчын, якія за пятнаццаць злотых заробку гатовы гараваць для пасрэдніка цэлы дзень (нпр. Крынкі, пашыўка пасцелі).

**Сакрат Яновіч**



 

ЦУДЫ НАШАГА ВЕКУ

## Магнітныя боты

Калі ласка, паглядзіце вось на гэты здымак. Чалавек вісіць уніз галавой ды не толькі вісіць, бо гэта кожны хлапчук патрапіць. Ён ходзіць уніз галавой! Не, не думайце, што гэта фатаграфічная шутка. Уверх нагамі ўтрымоўвае чалавека электрамагніт. Бачым яго (магніт) замацаванага на падэшве бота ў верхнім кутку здымка. Магніт рэкампенсуе цяжкасць чалавека і таму можа ён хадзіць па жалезнай столі. Гледачы французскага тэлебачання шпацыр па столі маглі пабачыць яшчэ пад канец мінулага года.

Каму гэтае патрэбна?

На зямлі хіба толькі артыстам цырку і другім балаўнікам. Але вось у космасе магнітныя боты будуць простым спосабам для захавання прывычнай для чалавека паставы. Ва ўмовах няважкасці чалавек не можа стаяць на нагах, так як мы на зямлі без спецыяльных прылад не можам хадзіць уверх нагамі. Магнітныя боты будуць тады трымаць ногі касманаўта пры металічнай падлозе карабля.

**Нейтрына**



ГАЗЕТЫ Ў СВЕЦЕ

Кожны дзень людзі чытаюць у свеце 314 300 000 экземпляраў 8 000 дзённых газет. Існуе 160 агенцтваў (у нас ПАП) у 82-х краінах свету.

Найбольш расчытана Англія — 49 экземпляраў на кожныя 100 асоб. Потым ідзе Люксембург і Швецыя — па 44,5 і 42 экземпляры на 100 асоб.

Калі ўзяць цэлыя мацерыкі то: Еўропа прачытвае 48% усіх газет, Амерыка — 23%, Афрыка, Азія і Лацінская Амерыка — разам 70% насельніцтва Зямлі — чытаюць толькі 26% газет.

СУКА — МАЦІ

Тыгрыцы наогул з'яўляюцца выроднымі маткамі, і таму заапаркі маюць вялікія клопаты з кармленнем малых тыгранят. Ім пагражае галодная смерць.



І тут з дапамогай прыходзяць сукі, якія выкармліваюць не толькі сваіх шчанюкоў, але і тыгранят.

(а-лів)

**На здымку: сука Матыльда з ташкенцкага заапарка корміць сваіх «патомкаў».**

МЕХАНІЗАЦЫЯ ПАСЛУГ

Адной з магутнейшых галін савецкай гаспадаркі з'яўляюцца паслугі. Фабрыкі машын прадукуюць розныя прылады, якія паляпшаюць спраўнасць і якасць рамонту. На здымку бачым машыну, якая чысціць, прасуе гарнітуры і паліто, Машына складаецца з парова-паветранага манекіна, які звільжае і чысціць адзенне, а таксама з прасавальнага манекіна з камплектам форм на розныя размеры паліто, гарнітураў, плашчаў і т. п. (ака)



# Чыстае паветра

Гаворым, што на вёсцы ёсць чыстае паветра. А, калі чыстае, значыць, і здаровае. Жыхар вёскі, які апынуўся ў горадзе, адразу адчувае спецыфічны пах гарадскога паветра — пыльнага, засмуроджанага, душнага. Гараджанін ужо не адчувае так востра гэтых усіх пахаў. Кажам, што прызвычаіўся чалавек. У гэтым сцверджанні шмат рацыі. Бо сапраўды, празвычайваемся і нават перастаем заўважаць, што жывем нездарова.

Праблема забрудненага паветра даўно перастала змяшчацца ў такіх паняццях, як: «смурод», «пыл на абрусах» і т. п. Больш уражлівыя людзі нават пераязджалі ў другія месцы, дзе — па іх меркаванню — чысцейшае ёсць паветра і здаравейшае яно.

Справа чыстага паветра вырасла цяпер да сусветнай праблемы. Зараз выходзіць на свеце каля 350 навукова-тэхнічных часопісаў, якія займаюцца праблемаю забрудненага паветра. Над гэтай праблемаю працуюць навуковыя інстытуты, гэтым займаецца Арганізацыя Аб'яднаных Нацый і Савет Узаемнай Гаспадарчай Дапамогі, які групуе сацыялістычныя краіны.

З усіх гэтых даследаў вынікае, што дапушчальнае забрудненне паветра прамысловым пылам не павінна перавышаць 250—360 тон на адзін квадратны кіламетр. У Польшчы забрудненне паветра ёсць куды большае! Нашы пляцоўкі САНЭПІДУ сцвердзілі, што ападанне пылу ў некаторых акругах Польшчы значна перавышае дапушчальныя нормы і дасягнула ўжо ад 1 800 да 9 000 тон пылу на адзін квадратны кіламетр. Прытым паветра моцна затручана рознымі вельмі шкоднымі здароўю газамі.

І так, прыведзеныя вышэй даныя сведчаць, што мы пабіваем усялякія рэкорды ў забрудненні паветра. Умовы здароўя з года ў год раптоўна пагаршаюцца. Прытым, нішчым раслліннасць, лясы, якія слушна называем лёгкімі нашага жыцця.

Людзі вядуць сябе дзіўна. Ствараюць службу здароўя для аховы здароўя людзей, эканамісты заахвочваюць нас да ашчаднасці кожнага кілаграма жалеза, беражлівых адносін да прамысловай машынерыі, капіталаў — і адначасова так мала робіцца для аховы чысціні паветра, без якога няма здароўя.

Калісьці старыя кракаўскія людзі непакоіліся, што суседняя Новая Гута задыміць горад. Тады ўзнікла дзіўная мода абсмейваць неспакой гэтых людзей. Сёння аказалася, што старыя мелі шмат рацыі. На Кракаў ідуць цэлыя хмары прамысловага пылу, як з нашай Гайнаўкі на навакольныя вёскі.

У такім, здавалася б, спакойным ды ціхім горадзе, як Аполе, запыленасць у цэнтры дасягнула 500—800 тон на адзін квадратны кіламетр у год.

Падрыхтоўваецца праект дзяржаўнай пастановы «аб ахове атмасфернага паветра». Згодна з прапануемай пастановай паветра будзе знаходзіцца пад аховаю перад рознымі забрудненнямі, якія робяць некарысны ўплыў на натуральнае асяроддзе. Недапушчальнымі будуць у асаблівасці такія забрудненні, якія пагражаюць жыццю або здароўю чалавека, уплываюць на вынішчэнне расліннасці і звяроў, псуюць глебу і воды рэк, азёраў, саджалак і т. п.

Пастанова абавяжа кіраўніцтвы прамысловых аб'ектаў будаваць адпаведнае абсталяванне, якое недапускае да распаўсюджвання фабрычных адходаў, сцёкаў. Перш чым будаваць новы прамысловы аб'ект, патрэбна будзе прадставіць тэхнічную развязку забеспячэння паветра ад прамысловага пылу — вядома, перад усім, з комінаў. Без тэхнічнай развязкі гэтай праблемы не будзе дадзен дазвол на будову новага аб'екта.

У праекце ўспомненай пастановы гаворыцца таксама аб патрэбе стварэння, так званых, **санітарных ахоўных зон** на тых тэрыторыях, дзе існуе асаблівая пагроза шкоднага ўплыву прамысловых пылаў, газаў і дымаў.

З гэтага вынікае, што справа здаровага паветра асабліва істотная ў наш час. Пры цяперашнім развіцці тэхнікі, матарызацыі гэта справа пачынае датычыць у роўнай меры. як горад так і вёску — перш за ўсё тыя вёскі, якія знаходзяцца паблізу прамысловых цэнтраў.

(ся)

*Мала, але цікава*

## Мангольская чырвань

Улан-Батар па-мангольску абазначае «Чырвоныя героі». Раней горад называўся Урга.

Хоць перамога рэвалюцыі ў Манголіі была аб'яўлена ў 1921 годзе, то аднак да сваёй смерці (1924 год) фармальна функцыю ўладара меў багдагеген (цар). Толькі пасля гэтай даты сталася народнай рэспублікай.

АЛЕКСЕЙ КАРПЮК

# Пушчанская адысея

**Некалькі тыдняў жыву дома.**

**Немцы з будынкаў вывезлі ўсё, што маглі. Бацькі пакрысе сваю маёмасць звалаклі, гэтага хапіла, каб запоўніць бакоўку, у бакоўцы мы і жылі ўтраіх. У астатніх пакоях памясцілася дзесяткаў два чыгуначных рабочых, якія перашывалі каляю з нямецкай шырыні на нашу.**

**Заходжу чагосьці ў пакоі, дзе рабочыя. Хлопцы і дзяўчаты якраз сядзяць на саломе, абедаюць. Дзве дзяўчыны кідаюць лыжкі, хіхікаюць.**

**— А мы вас бачылі ў Каўнянах! — хваліцца адна. — Ля кузні, памятаеце?**

**— Яшчэ я сказала: «Які малады, прыгожы немец...» — дадае другая.**

**Пырскаюць.**

**Аднак мне не весела. Там жа загінуў нявінны чалавек! Гэтыя сабе хіхікаюць, а сярод тых вунь, што насцярожана глядзяць з-пад сцяны, мо — брат, або сястра, ці жонка няшчаснага!**

**Дома нестае месца.**

**Абедаючы за сталом, кідаю:**

**— Трэба з'ездзіць у Меляшкі...**

**Маці ўстаўляе:**

**— А тых, сынок, траіх, каторых некалі забралі за стрэлку ў Валілах, немцы такі пазабівалі...**

**Нікому ў Страшаве я не гаварыў, што стрэлку ўзарваў я, але сэрца матчына адчула адразу. Яна цяпер трывожыцца не менш.**

**У Меляшкі ўжо не еду. Вычысціў веласіпед, качу ў Гарадок. Ды самай дальняй дарогай — шашой.**

**Відаць, каб на шашы Беласток — Ваўкавыск не высыхала кроў, то дарога гэтая ўся ёю заплыла б.**

**Нашы дзяды яе прасяклі праз пушчу і пакрылі брукам у 1905 годзе.**

**У першую сусветную вайну па ёй адступалі і наступалі рускія і нямецкія арміі, густа ўсцілалі шлях трупамі. Сюдой ішлі на Варшаву, а потым вярталіся ў 1920 годзе бальшавікі і таксама пакідалі магілы, магілы, магілы...**

**Аднак найбольш яна крывавіла і была ўслана целамі ў чэрвені — ліпені 1941, калі нашы адступалі, а іх з паветра расстрэльвалі з бартавых гармат і кулямётаў, а на галовы проста са скрыняў высыпалі тысячы крыластых супрацьпяхотных гранат.**

**Потым немцы павялі на захад палонных, і спецыяльныя брыгады рабочых ледзь паспявалі прысыпаць у кюветах дастраляных фашыстамі абяссіленых байцоў...**

**Затым тысячы яўрэяў пакрывалі яе асфальтам, уздоўж палатна ўстанаўлівалі бетонныя слупікі. Калі асфальт скончылі і слупікі пабялілі, яўрэяў расстралялі.**

**Папоўзалі на жыватах па ёй і мы, партызаны.**

**Цяпер у кюветах валяюцца толькі паламаныя дошкі, пагібаныя гільзы снарадаў, шмаццё, ззяюць варонкі ды часамі бялеюць чалавечыя косці, але і гэта ўжо заносіць пяском, зарастае травой.**

**Цяпер гэты шлях — нібы траурная лента цягнецца ўдаль аж да гарызонта, а паабапал мірна млее хвойнічак. Ціха і спакойна, толькі ляніва пралятаюць растлусцелыя вароны.**

**Забалела спіна. Пачуўшы пад коламі ліпкі асфальт, выпростваюся, уздыхаю, складаю на грудзях рукі і качу, не трымаючыся за руль.**

**Ззаду шуршыць машына. Там апладзіруюць. Азіраюся. У кузаве — поўна вайсковых. Успамінаецца Марусін бінокль, хочацца выкінуць які-небудзь конік. Вымаю з кабуры пісталет, страляю ў бліжэйшы слупік.**

**Чок! — у цэнтры белага фону паяўляецца цёмная плямка. Чок! — другая. Чок! — трэцяя.**

**Шофер не спяшаецца мяне абганяць. Вайсковым цікава, як у цырку.**

**Што-што, а страляць з пісталета ўмею. І веласіпед пада мною вайсковы, «дуркоп», — лёгкі, моцны, з доўгай рамай. Спакойна кручу педал, перазараджаю пісталет і па чарзе, акуратна ў цэнтры, значу кожны слупік, не марную ні адной кулі.**

**— Брава-а! — крычаць ззаду.**

**Забава не новая. З дзяцінства не злажу з веласіпеда а ў вайну ніхто не абмяжоўваў патроны, і сапсаваў я іх не адну тысячу, было б якраз дзіўна, каб не трапіў.**

**Агортвае трывога, неспакой: куды еду? Чаго? Прыеду ў Гарадок — і што? Куды дзявацца, што рабіць?**



Фота: дарога.

# ТРЫБУНА *чытачоў*

### НАШ СОЛТЫС

Міфодзій Гушча ўжо 9 год працуе солтысам у вёсцы Ліпіны. Хаця ён ужо і старэйшы чалавек, але добра выконвае давераныя яму абавязкі. Заўсёды ў прызначаны час збірае падаткі, клапоціцца, каб прыгажэла вёска, а таксама і памагае сялянам ў іх клопатах. Часта ён ходзіць у грамадскую раду, якая знаходзіцца ў Дубінах, і там адстайвае інтарэсы сваёй вёскі.

Апошнім часам у Ліпінах пабудавана злеўня малака. Добрай рысай нашага солтыса з'яўляецца, між іншым, і тое, што да людзей ён адносіцца вельмі ветліва.

**Марыся Петручук**
Ліпіны

### АЛЯКСАНДРА ЛЕВАНЕЎСКАЯ

Культурнае абслугоўванне ў сталовых гэта вельмі важная справа.

Аляксандра Леванеўская з Нараўкі добра выконвае свае абавязкі. Заўсёды яна ветлівая, заўсёды з усмешкай на вуснах. Нават прыемней сядзець і з большым апетытам есці абед, калі ён культурна і ветліва прыпаднесены. Працуе яна ў нараўскай гасподзе ўжо 4 гады. Сотні, а нават тысячы наведвальнікаў гэтай сталовай абслужыла ўжо Аляксандра Леванеўская з цэлым майстэрствам сваёй прафесіі — афіцыянткі.

(мх)

### ДАБУДАВАЛІ

Бацькоўскі камітэт з кіраўніцтвам школы ў Рыбаках пры дапамозе мясцовай ГРН пастанавілі да школьнага будынка дабудаваць прыбудоўку, у якой маглі б вучыцца дзеці. Прыбудоўка мае дзве залы для навучання, а таксама вешалку і канцылярыю. Работы пры прыбудоўцы ўжо заканчваюцца. У гэтым годзе таксама школу агарадзілі прыгожай драцяной сеткай. Ад вуліцы Уладзіслаў Буйко каля сеткі ўлажыў ходнікі. Прыгожа загаспадараваны школьны гародчык, пасаджана кветкі і дрэўцы.

**Мікарэшук**
Бандары




### ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!

На мінулыя Каляды я пазнаёмілася з Юркам. Юрэк мае ўжо 35 гадоў і жыве ў горадзе. З Юркам мяне пазнаёміла мая сяброўка, якая вучыцца ў тым жа горадзе. Гэта брат яе сяброўкі Юрэк развёўся са сваёй першай жонкай. Аб гэтым ён мне сам гаварыў (перад тым мне сказала ўсё аб ім мая сяброўка). Гаварыў мне, што гэта жонка яго пакінула і выехала ў другі горад з іншым. Яны маюць адно дзіця, яно пры яго жонцы. Юрэк штомесяц высылае па 500 злотых для сына. Нядаўна сказаў мне, што хацеў бы ажаніцца са мной, толькі ці я згаджуся. Не ведала, што яму адказаць. Тады Юрэк запрапанаваў мне, каб я надумалася і даў мне месяц часу для гэтага, каб я вырашыла ці так, ці не. Не ведаю, Сэрцайка, што рабіць. Мне 26 год. Бацькі мае згодныя, а брат дык і вельмі хоча, каб я выйшла замуж, бо хацеў бы ўжо сам жаніцца. Юрэк мне падабаецца, ён сімпатычны, вясёлы, культурны. Ён мае сярэднюю адукацыю, нядрэнна зарабляе. А я скончыла толькі пачатковую школу і на вёсцы навучылася кравецтва. Аднак Юрэк не глядзіць на гэта, што я не маю адукацыі, гаворыць, што калі захачу, дык завочна магу вучыцца. І ўсё было б добра, каб не людзі, якія смяюцца, што не хапіла мне кавалераў, і знайшла сабе разводніка, а другія падказваюць, што мо ён шукаў другіх жанчын і таму яго жонка кінула, што можа зрабіць таксама і са мной. Што рабіць?

**Ніна**
з Гайнаўшчыны

Дарагая Ніна! Не звяртай увагі на людзей і іх плёткі. Гэта ж вядома, што без плётак нічога не адбудзецца, ані веселле, ані хрэсьбіны і т. п. Але калі ты добра ведаеш Юрку, пазнала яго характар і пераканана, што Юрка добры і сумленны чалавек, дык не звяртай увагі на людскія гаворкі і выходзь замуж за Юрка. Табе ж ён самой падабаецца. А што ён разводнік, гэта не такая ўжо вялікая бяда, горш, калі б ён быў п'яніца ці які іншы распуснік. Вельмі мне падабаецца, што ён любіць свайго сына і пасылае яму рэгулярна грошы — гэта ўжо добра сведчыць аб ім.

Жадаю ўсяго найлепшага

**Сэрцайка.**



**ЧЫЖЫ**

**Адна з прыгажэйшых вёсак на Гайнаўшчыне. У мінулым годзе ў Чыжах пералажылі маставую і ходнікі.**

Фота: М. Хмялеўскі



**Укладванне ходнікаў.**

## За найпрыгажэйшую вёску

У сакавіку жыхары Пасынак (Бельскі павет) прыступілі да конкурса «За найчысцейшую сядзібу ГРН у ваяводстве».

Яны забавязаліся выканаць грамадскім чынам 2 000 м² ходніка, давезці да парадку, аднавіць і адгарадзіць ад вуліцы плотам агароды, адрамантаваць 300 метраў дарогі, пасадзіць 400 дрэвак і пабудаваць 2 водныя пропускі.

Для забеспячэння рэалізацыі грамадскага чыну ГРН у Пасынках даставіць цэмент на ходнікі і пропускі. Шмат ужо зроблена з гэтага абавязацельства. Пасаджана 250 дрэвак, прывезена больш 500 кубаметраў пяску пад ходнікі, уложана 1 500 квадратных метраў ходніка, а таксама пастаўлены ўжо платы.

Некалькі год таму назад пабудавана тут шырокая вуліца, заложаны лямпы дзённага святла. Пройдзе нейкі час і Пасынкі даб'юцца таго, што іх вёска будзе найпрыгажэйшай у павеце, а можа і ваяводстве.

**Павел Зінкевіч**
Бельск

## Карысная ініцыятыва

На выгане непадалёк вёскі Дубічы Царкоўныя некалі быў мосцік, праз які жыхары вазілі сена з лугоў, пераганялі жывёлу. Пасля мост разваліўся. Людзі далей хадзілі, ездзілі выганам, толькі мосцік міналі і ехалі побач яго праз меліярацыйны роў, які хутка знішчылі.

Ніхто не клапаціўся пра будову новага маста. Солтыс Аляксей Невядомскі ў суботу вечарам 16 ліпеня склікаў сход, на якім выступіў з прапановай да жыхараў аб пабудове грамадскім чынам новага бетоннага мосціка на выгане. Прапанову ўсе падтрымалі і назаўтра ў нядзелю хто з канём, хто з лапатаю былі на выгане. Хутка, бо перад абедам мосцік быў пабудаваны. Матэрыялу на яго будову даў Прэзідыум ГРН у Дубічах Царкоўных.

**Мікалай Панфілюк**
Дубічы Царкоўныя

**Што ні гавары, вайна зрабіла некаторых — каго ў меншай ступені, каго ў большай — псіхічным калекай. Людзі настроіліся разбураць, забіваць, жыць на гатовым хлебе. Не так хутка перастроіцца чалавеку. Не адразу магу знайсці сабе месца і я.**

**Яшчэ ў Мінску, у штабе, вербавалі партызан для адной работы. Трэба было быць кемлівым, ведаць мовы. Работа здалася мне рамантычнай і вартай таго, каб рызыкаваць. Пайшоў прасіцца. Пачынаю апавядаць біяграфію, даходжу да Штутгофа — і мяне адхіляюць. Выяўляецца, я — з плямай, а маё прабыванне ў лагеры смерці і ўцёкі з яго не заслуга, а страшная віна!**

**Тое самае спатыкала многіх, таму лягчэй было пераносіць крыўду. Пачаў я скардзіцца брыгадным разведчыкам. Хлопцы слухалі мяне з нейкімі горкімі ўсмешкамі.**

**Ад'ютант Віктар Раманцэвіч уздыхнуў:**
**— Меў туды пайсці і Мікалай Калістратавіч!**

**— Не пайшоў?**

**— Не ўзялі. Сёння выдалі напраўленне дзесятнікам на ваўкавыскі цэмзавод «Пабеда»...**

**— Дзеся-атнікам?!**

**Адно зараз бачу, што хлопцы апушчаныя, п'янаватыя.**

**— Чаму, Віцька?**

**— У яго бацькі арыштаваныя ў 37-ым. Цяпер толькі выявілася...**

*

**У Гарадку першым спатыкае Філімончык.**

**— Гэта ты?! — паціраe далоні.**

**— Як бачыш!**

**— Пара-адак!.. Куды ўладкаваўся?**

**— Безработны яшчэ...**

**— Няўжо?! — шчыра абураецца. — То ідзі да нас загадчыкам склада, патрэбен якраз, будзеш жыць — во!**

**Што адказаць яму?**

**— Во, а ў мяне ёсць лячэбны спірт! У медыкаў дастаў! — хваліцца, быццам гэта невядома якое дасягненне.**

**— Навошта ён табе?**

**— Палечымся чым-небудзь, «вспомним былые походы»!..**

**Філімончык пайшоў у партызаны з першых дзён вайны, і непрыемныя моманты, сустрэчы, успаміны, як у мяне, мусяць быць і ў яго. З Філімончыка — нібы з гуся вада! Упэўнены карычневы карак. Здаволеныя, нібы бакі футбольнага мяча, шчокі: тое самае, што і ў лесе, крыўлянне...**

**І ёсць жа на свеце людзі, якім жывецца бесклапотна! З Гарадка мой веласіпед коціць у Бялявічы, да дзядзькоў. Іх у мяне два, і ў кожнага гурба малышоў. Застаю толькі пляменнікаў. Чаго малым хочацца? Паглядзець, як страляюць.**

**На сцяне дзядзькавага гумна намалявана кола. Мацерыны браты яшчэ пры Польшчы вучыліся тут страляць, а старыя дзіркі ад куляў усё дзяцінства выклікалі ў мяне дрыжыкі. Абкружаны пляменнікамі, пачынаю садзіць на бярвеннях новыя дзіркі.**

**У сваякоў стаіць на кватэры афіцэр інтэнданцкай службы. Бедны чалавек не вытрымлівае пальбы, выбягае на двор.**

**— Не абрыдла табе яшчэ? — нападае на мяне. — Не-е? То ідзі вунь да іх! — паказвае на гасцінец, па якім рухаюцца запыленыя батальёны рэзерваў.**

**Дык ён жа мне сказаў менавіта тое, аб чым я і сам увесь час думаў! Гэтае рашэнне даўно ўжо ўзнікла ва мне, і я накіраваўся ў ваенкамат прасіцца на фронт.**




Ваяводская Камісія Цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер — у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны ў злотых.

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 450 | 400 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,65 | 1,50 | 1,55 |
| масла | кг. | 56 | 60 | 50 |
| ялавічына | кг. | — | 35 | — |
| свініна | кг. | 38 | 36 | — |
| сала | кг. | 34 | 34 | — |
| бульба | кг. | 2 | 2 | 2 |
| цыбуля | кг. | 6 | 6 | 6 |
| капуста | кг. | 2,25 | 2 | 1,30 |
| морква | кг. | 4 | 4 | 6 |
| буракі | кг. | — | 3 | — |

# КІНО

**Праграма**
**на 9—14. VIII. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Pięć łusek” (NRD), 9—10. „Bandyci z Orgosolo” (włoski), 11—12. „Zabawa w muzeum” (węgierski), 13—14.

**Кляшчэлі**

„Kapral i inni” (węgierski), 9—10. „Jo-jo” (franc.), 11—12. „Tak” (węgierski), 13—14.

**Дубіны**

„Kalosze szczęścia” (polski), „Ojciec żołnierza” (radz.), 13—14.

**Нарва**

„Ameryka. Ameryka” (USA), „Ewa A5-116” (węgierski), 10—14.

**Нараўка**

„Umrzeć w Madrycie” (franc.), „Kuba w ogniu” (kubański), 10—14.

**Дубічы Царкоўныя**

„Ostatni lot” (radz.), „Winda towarowa” (franc.), 10—14.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Pingwin” (polski), „Człowiek z przeszłością” (radz.), 10—14.

**Орля**

„Był sobie dziad i baba” (radziecki)' „Czarne skrzydła” (radziecki), 10—14.

**Райск**

„Droga przez cmentarz” (radziecki), „Dwója z wychowania” (radz.), 10—14.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Bandyci z Orgosolo” (włoski), 9—10 „Zabawa w muzeum” (węgierski), 11—12. „Alba Regia” (węgierski), 13—14.

**Міхалова**

„Alba Regia” (węgierski), 9—10. „Panie inspektorze” (jugosłowiański), 11—12. „Żona dla Australijczyka” (polski), 13—14.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Obrońca z urzędu” (angl.) 9—10. „Zdradzona ziemia” 11—12. „Giuseppe w Warszawie” (pol.), 13—14.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Premiera odwołana” (NRD), 9—10. „Operacja Y” (radz.), 11—12. „Wielki skok” (franc.), 13—14.

**Шудзялава**

„Czarne i białe” (USA), „Gładka skóra” (franc.), 10—14.

**Сідра**

„Tak blisko nieba” (czeski), 9—10. „12 milionów Holendrów” (holenderski), 11—12. „Kraksa” (radz.), 13—14.

**Сухаволя**

„Zawsze w niedzielę” (pol.), 13—14.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Karambol” (węgierski), „Kanciarze i spółka akcyjna” (angl.), 13—14. 7

**НІВА**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch” Nr 102-7-161 NBP Białystok 1 Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch” Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona” Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie. 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Błtk D-3




# ХУСТКА

Уранку, перад тым як пайсці на працу, мама сказала, што ўвечары нам «падсыпле».

— За што? — не вытрымала сястрычка Людка.

— Вось як усыплю, будзеце ведаць. Дзе падзеліся грошы з Віцькавай і тваёй капілкі?

Мы з Людкай пераглянуліся і апусцілі вочы, а мамка, нічога больш нам не сказаўшы, выйшла з хаты.

— Вось табе і сакрэт! — сказала нарэшце Людка. — Як жа яна агледзела? Лепш прызнаемся, і ўсё будзе добра.

— Паспрабуй толькі заікнуцца, дык май на ўвазе!.. — спрабаваў застрашыць я сястрычку. А сам падумаў: «Што ты [illegible] возьмеш? Прыдзе маці, яна сакрэт і раскрые».

— І татка паехаў. Раней чым заўтра, не вернецца, — уздыхнуўшы, сказала Людка. — Татка б нас абавязкова падтрымаў.

— А ты вось што, — сказаў я, — калі не спадзяешся на сябе, то валі ўсю віну на мяне. Скажы, што грошы з капілкі я забраў...

З нецярплівасцю чакалі мы вечара і наступнага дня. Каб не мець больш непрыемнай размовы з мамкай, мы з Людкай вырашылі раней легчы спаць. З паўгадзіны перашэптваліся, а потым і заснулі.

Раніцай разбудзіла мяне Людка.

— Віцька, Віцька, уставай. Татка прыехаў. Чуеш, у гараж машыну пагнаў.

Пазнаўшы гул таткавага грузавіка, я падхапіўся і пачаў апранацца. Не паспеў і памыцца, як на парозе з пакункамі, увесь абсыпаны снегам, з'явіўся тата.

— Ну, як тут жылі без мяне? — запытаў ён, ужо распранаючыся.

— Малайцы! — сярдзіта сказала маці. — Капілкі пустыя — і яго і яе...

— Гэта ты, відаць... — узяўшы мяне за руку, грозна запытаў бацька. — Можа на грошы з кім гуляеш? Га?

— Зусім распусціўся, — сказала маці. — А колькі ён у [illegible] мантачыў: «Дай, мамка, рубля, дай паўрубля!» Ды і Людка нешта часта на цукеркі прасіла.

— Ды што, не прызнаешся? — яшчэ больш сур'ёзна спытаў бацька.

Людка часта міргала вачыма. Нашы позіркі сустрэліся. Можа ўжо і настаў час ва ўсім прызнацца?

— Пусці, — папрасіў я тату, — зараз, зараз скажам...

Мы пабеглі ў спальню, вярнуліся адтуль са скруткам і падалі яго маме. Тая здзіўлена паглядзела на нас і пачала асцярожна разгортваць паперу.

— Хустка? — сказала яна здзіўлена. — Адкуль гэта, у чым справа?

— Вось табе і ў чым справа. Хіба ж ты забылася, што сёння твой дзень нараджэння? Вось мы і купілі на сабраныя грошы табе падарунак.

Мамка стаяла, прыціснуўшы да грудзей наш падарунак, і часта, часта міргала, а потым схапіла мяне і Людку, і моцна прыціснуўшы да сябе, зашаптала:

— Дзеткі мае, родненькія, мае даражэнькія...

І я пачуў, як некалькі слязінак упала на маю руку. А можа гэта былі мае слёзы?

— А ведаеш, маці, яны мяне апярэдзілі, — сказаў тата і выйшаў у сенцы. Вярнуўся ён з беленькімі, як снег, валёнкамі, падаў іх маці. — З днём нараджэння, родная!.. І ўсім стала вельмі, вельмі радасна.

**Міхась Скрыпка**



— Падалі самыя косці. А дзе мяса дзелася?

### У ТЭАТРЫ

*У тэатры сядзяць дзве жанчыны, якія ўвесь час спектаклю ўвесь час гавораць. Падзнерваваны сусед звяртаецца да іх:*

*— Паважаныя жанчыны, я ж абсалютна нічога не чую.*

*— Вось так і трэба, — адказваюць яны, — гаворым мы пра сакрэтныя прыватныя справы.*

### ХТО РАЗУМНЕЙШЫ

Аднойчы да фанабэрыстага хлопца звярнулася дзяўчына:

— Прабач, колькі зараз гадзін?

Нічога не гаворачы, хлопец паказвае гадзіннік. Дзяўчына некаторы час разглядае мудрагелісты цыферблат. Нарэшце кажа:

— Нешта я нічога не разумею.

— Дык гэты гадзіннік толькі для разумных.

— Для разумных? Здзіўляюся, як гэта ён тады да вас трапіў?

### ЗРУЧНЫ МОМАНТ

Муж: Ведаеш, Ч. прыпісалі дыэту.

Жонка: Якраз зручны момант запрасіць яго ў госці.

### БУНТ

Жонка: Апошні раз пытаю: вылезеш ты з-пад стала ці не?

Муж: Не вылезу: яшчэ раз табе дакажу, хто тут з'яўляецца гаспадаром хаты.

### ДАПЫТЛІВЫ

Маці прыйшла з магазіна.

— Ты мне майку купіла? — пытаецца Шурык.

— Купіла.

— Пакажы!

Маці паказала.

— А Віцьку — купіла?

— Не, не купіла.

Але Шурык не здаецца:

— А ты пакажы, што не купіла!

## АРЭШАК

**Пусты арэшак**
**Нейк зазначыў:**
**— І я на свеце**
**Многа значу.**
**Мяне не проста раскусіць:**
**Магу ў роце**
**Зуб скрышыць.**

**Яўген Крупенька**

---

### ПРАЎДА

— Ці гэта праўда, што Інка дрэнна жыве з мужам?

— Так, затое з іншым жыве добра.

### РАДА

Дарагі доктар, што мне рабіць, каб не засынаць за сталом?

— Трэба адразу лягаць да ложка.




*Жанчына наогул трывожыцца пра сваю будучыню так доўга, пакуль не выйдзе замуж, мужчына не трывожыцца пра сваю будучыню — пакуль не ажэніцца.*

Галоўнае — тэхніка бяспечнасці.

Хімчыстка

**АКЕНЦА ДУМАК**

Тыя, хто перарос эпоху, часта ходзяць з апушчанымі галовамі.

*Песні па заяўках*

Па просьбе Валі Грыц з Цісоўкі, Гайнаўскага павета, змяшчаем песню п. з.:

# DESZCZ

Muzyka: A. Flarkowski  Słowa: R. Roździestwieński




Przeczytaliśmy w gazetach:
deszcz.
Przeczytaliśmy — czy nie tak? —
Deszcz.
Nie wierzyliśmy w to najpierw,
a ot — leje, pada, kapie,
deszcz, deszcz, deszcz.

Monotonna, nudna mżawka —
deszcz,
na trawnikach i na ławkach
deszcz,
Wszędzie cicho, wszędzie pusto,
po chodnikach woda chlusta —
deszcz, deszcz, deszcz.

Chociaż blisko i daleko
deszcz,
ja przetrzymam, ja przeczekam
deszcz.
Chyba wyjdziesz na spotkanie,
chyba ci się nic nie stanie
W deszcz, deszcz, deszcz.

No i cóż że świat zamazał
deszcz?
Pochodzimy sobie razem
w deszcz.
Niechaj sobie deszczyk kropi,
przecież chyba nie roztopi
nas ten deszcz.